ДА VII З'ЕЗДУ БГКТ



## ПЕРАДЗ'ЕЗДАЎСКІЯ ДУМКІ

З намеснікам інспектара аддзела асветы і культуры Прэзідыума ПРН у Гайнаўцы тав. Сяргеем Вароўскім мне давялося сустрэцца ў пачатку жніўня.

Тав С. Вароўскі з'яўляецца членам прэзідыума праўлення Гайнаўскага аддзела БГКТ і дэлегатам на VII з'езд нашай арганізацыі.

— Ці не маеце цяжкасцей у забеспячэнні школ, у якіх выступае навучанне беларускай мовы, у кадру настаўнікаў?

— Адкрыццё завочнага аддзялення на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта стварыла вельмі спрыяльныя ўмовы для падрыхтоўкі настаўнікаў беларускай мовы з поўнай вышэйшай універсітэцкай адукацыяй. У гэтым годзе паступіла вучыцца 8 настаўнікаў з Гайнаўшчыны, у будучым годзе напэўна будзе болей ахвотных. У гэтым годзе аб наборы было аб'яўлена вельмі позна, настаўнікі прымалі рашэнне аб паступленні ў апошнюю хвіліну, зусім не мелі часу на падрыхтоўку да ўступных экзаменаў. Спадзяёмся, што ў будучыні аб наборы будзе вядома ўжо на пачатку года, г.зн. у студзені або лютым. Тады будзе час і на развагу і на адпаведную падрыхтоўку да паступлення. Як кожны год, так і сёлета выязджалі нашыя настаўнікі беларускай мовы на курс у Мінск для павышэння сваіх кваліфікацый. З Гайнаўшчыны ў гэтым годзе ездзіла 7 асоб. Вярнуліся яны і з паглыбленымі ведамі па свайму прадмету і з вялікім запалам да працы. Вакацыйныя курсы настаўнікаў у Мінску — гэта сапраўдная кузня дасканалення нашай настаўніцкай кадры. Але і нашыя асветныя ўлады не павінны забываць пра арганізацыю вакацыйных курсаў для настаўнікаў беларускай мовы. Добра было б, каб яны адбываліся ў якой-небудзь выпачынковай мясцовасці за межамі Беластоцкага ваяводства, напрыклад, у Мендзыздроях, і мелі характар курсаадпачынку. Яны павінны праводзіцца сістэматычна з года ў год з разлікам на 20 чалавек удзельнікаў. Наогул жа не адчуваем значных недахопаў у настаўніцкай кадры па беларускай мове, можа за выключэннем некаторых пачатковых школ з I—IV класамі, у якіх навучае адзін настаўнік і не мае ён спецыяльнай падрыхтоўкі па гэтаму прадмету, як напрыклад, у Агародніках. У мінулым годзе значна палепшыліся кадравыя справы ў школах у Нарве і Нараўцы. Маем толькі цяжкасці са сарганізаваннем камплектаў да навучання беларускай мовы ў пачатковых, аднакласных школах. Не заўсёды набіраецца ў іх 7 вучняў ахвотных вывучаць гэты прадмет, калі часам ва ўсёй школцы ёсць усяго 12—15 дзяцей і асяроддзе мешанае.

— Што для дабра навучання беларускай мовы можна і павінна зрабіць Беларускае грамадска-культурнае таварыства?

— Трэба аб'ектыўна сцвердзіць, што БГКТ дбае пра справы навучання беларускай мовы, і па меры сваіх магчымасцей робіць усё, каб навучанне роднай мове развівалася належна. Гэтаму служаць і розныя роду конкурсы для вучняў, канферэнцыі настаўнікаў і іншыя мерапрыемствы. Але гэта не значыць, што ўсё ўжо зроблена. Трэба больш зацікавіць навучаннем роднай мовы дзяцей беларусаў з самога горада Гайнаўкі, а таксама такіх мястэчак як Белавежа, Кляшчэлі, Чарэмха, Нараўка, Нараў. Для гэтага патрэбны выступленні лектараў БГКТ перад бацькамі на вывядоўках і іншых сходах у школах на тэмы дасягненняў гаспадаркі і культуры БССР, вялікіх гістарычных гадавін, патрэбны лекцыі аб беларускай літаратуры і мастацтве, аб ролі роднай мовы ў выхаваўчым працэсе. Добра было б, каб перад дарослымі ў школе выступіла «Лявоніха» ці іншы мастацкі калектыў.

Працяг на стар. 4


# Ніва

ТЫДНЁВІК ГПБГКТ

№ 36 (862) ГОД XVII БЕЛАСТОК 3 ВЕРАСНЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.


ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## Адольф Касюк

Больш 50 гадоў свайго жыцця прысвяціў пчолам жыхар Вітава, Гайнаўскага павету Адольф Касюк. Мае ён 60 вулеяў у Доўгім Бродзе, Бобінцы, Вітаве і Пасечніках. Штогод прадае дзяржаве больш 1 500 кілаграмаў мёду. Мёд ахвотна купляе ў яго агародніннапчалярскі кааператыў у Бельску Падляшскім, на пунктах скупкі ў Кляшчэлях, Гайнаўцы і Курашаве.

Адольф Касюк заахвоціў да пчалаводства шматлікіх пачынаючых пчалаводаў з Трасцянкі, Тэрэміскаў, Гайнаўкі і іншых вёсак. Зараз гэты карысны занятак перанялі ад яго між іншым Пётр Мінюк з Трасцянкі (мае ён больш 300 вулеяў), Сяргей Грушэўскі з Горнага каля Гайнаўкі (115 вулеяў), Ян Банькоўскі і Балеслаў Межвінскі з Гайнаўкі па больш чым 60 вулеяў.

Адольф Касюк палюбіў пчол яшчэ ў раннія гады сваёй маладосці. Любоў гэтую прывіў яму яго родны бацька, які гадаваў пчолы ў ствалах тоўстых бярвенняў, якія толькі крыху прыпаміналі сучасныя вуллі. Зараз Адольф Касюк змяняе ўстарэлыя 12-рамкавыя вуллі на 20-рамкавыя. Вуллі робіць сам, бо навучыўся таксама сталярскаму рамяству.

Калі наведаў я яго ў пасецы ў Бобінцы, пчаляр расказаў мне многа цікавых звестак з жыцця пчол. Некаторыя з іх маглі б увайсці ў змест не адной кніжкі аб пчолах. Адольф Касюк цэлымі гадамі назірае за жыццём пчол і добра пазнаёміўся з імі. Нічога тады дзіўнага, што калі пачне ён расказваць аб пчолах, дык кожнаму яго субяседніку хацелася б стаць пчалаводам. А вопыт у пчалавода Касюка з Вітава вялікі.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкага*



*Прыгажосць Беластоцкай зямлі. Драгічын над Бугам.* *Фота З. Зарэмба*



## У ДОБРЫ ЧАС



Фіялетавым полымем заяснелі верасы на ўзлесках, дзе-нідзе прыгажуня-бярозка прыаздобіла свае зялёныя косы зоркамі асенняга золата і шчабятлівай грамадзе вучняў галасісты школьны званок шле пажаданне: «У добры час!»

З асаблівай сардэчнасцю адчыніла школа свае гасцінныя дзверы перад першакласнікамі. Іх, загарэлых у промнях ласкавага жнівеньскага сонца і з водблiскамі высокага блакіту неба ў цікаўных вачах, павядзе настаўніца ці настаўнік у зачараваную краіну літар і лічб, паступова, крок за крокам, будзе адкрываць ім цудоўны свет ведаў. Жадаем ім многа радасці, задавальнення і самых пяцёрак на іх шматгадовым вучнёўскім шляху!

У гэты першы дзень верасня ўвойдуць у класы і кабінеты сярэдніх школ дзяўчаты і юнакі, апраменены шчырым жаданнем здабыцця грунтоўных ведаў і — у завадовых школах — любімай прафесіі. Няхай жа ім у гэтых высакародных імкненнях спадарожнічае заўсёды працавітасць ды настойлівасць у вучобе і радасць шчаслівага юнацтва!

А тым, хто апошні ўжо год знаходзіцца ў сваёй роднай школе, жадаем, каб апошні для іх чэрвеньскі званок прынёс не толькі смутак развітання з настаўнікамі, сябрамі і школай, але таксама вялікую радасць і задавальненне з працы ў абранай прафесіі ці з паступлення ў сярэднюю або вышэйшую школу.

Няхай жа і за школьнай лаўкай у дружным класным калектыве і ў цішы самастойнай працы над падручнікам дома заўсёды натхняе Вас заклік вялікага Леніна: «Вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца...» Бо чакаюць на маладыя працавітыя рукі і светлы розум абшырныя палеткі нашай Радзімы, рыштаванні дзесяткаў тысяч будоваў, магутныя карпусы заводаў і фабрык, лабараторыі даследчых інстытутаў.

Шаноўным нашым настаўнікам і выхаваўцам, пачынаючым свой працавіты школьны год, даручаем самую вялікую цэннасць грамадства — нашае маладое пакаленне. Наша партыя, урад, уся наша краіна высока ацаніла Ваш вялікі ўклад у будаўніцтва сацыялістычнага грамадства, і наш народны Сейм зацвердзіў адзін з найважнейшых дакументаў у гісторыі польскага школьніцтва — Карту правоў і абавязкаў настаўніка. У букет ірдзістых кветак, што ўручаюць Вам у гэтыя дні ўдзячныя выхаванкі, далучае ўсё наша грамадства самую прыгожую з іх — давер і прызнанне Вашай шляхетнай працы.

У добры час, шаноўныя настаўнікі і дарагая моладзь!

# ◊ Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

 **СВЕТ**  **БССР** **ПОЛЬШЧА**  **ВАЯВОДСТВА**

### ІНТАРЭСАХ УМАЦАВАННЯ МІРУ

23 жніўня адбылося сумеснае пасяджэнне камісій па замежных справах Савета Саюза і Савета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР.

Члены камісіі абмяркоўвалі Дагавор паміж Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і Злучанымі Штатамі Амерыкі аб абмежаванні сістэм проціракетнай абароны, падпісанага ў Маскве 26 мая 1972 года.

Дагавор гэты прадугледжвае, што бакі могуць мець не больш, чым па два раёны размяшчэння сродкаў проціракетнай абароны радыусам у сто пяцьдзесят кіламетраў кожны, а ў кожным з іх — не больш чым сто пускавых установак проціракет. Пры гэтым не павінна ствараціца і разгортвацца пускавая ўстаноўка проціракет для запуску з кожнай такой устаноўкі больш адной проціракеты адначасова. Бакі абавязваюцца не ствараць і не разгортваць сістэмы або кампаненты проціракетнай абароны марскога, паветранага, касмічнага або мабільна-наземнага базіравання, а таксама бяруць на сябе дадаткова абавязацельствы, накіраваныя на забеспячэнне эфектыўнага абмежавання сістэм ПРА.

Узаемная адмова ад разгортвання сістэмы ПРА ў маштабах нацыянальнай тэрыторыі ставіць абодва бакі ў аднолькавае становішча і дае магчымасць пазбегнуць вялікіх затрат на далейшае разгортванне сістэм проціракетнай абароны.

### З ПАЎНОЧНАЙ ІРЛАНДЫІ

Становішча ў Паўночнай Ірландыі застаецца напружаным. Англійскія войскі працягваюць арышты і вобыскі ў каталіцкіх раёнах Лондандэры.

З пачатку гэтага года ў ходзе сутычак у Ольстэры загінула 316 чалавек.

### ЛІЎНІ Ў ПАЎДНЁВАЙ КАРЭІ

Паўднёвую Карэю наведалі моцныя ліўні, якія не спыняліся на працягу дзвюх сутак. Колькасць чалавечых ахвяр дасягнула 400. Вялікія страты нанесены рысавым палям, камунікацыі, партовым збудаванням, разбураны дзесяткі тысяч дамоў.

### ГАНЕБНАЯ АВАНТУРА

Калі 19 кастрычніка 1971 года прэзідэнт ЗША гаварыў перад прадстаўнікамі прэсы аб намеры яго краіны «пакончыць з амерыканскім удзелам у вайне да мая 1972 года» або зрабіць «значны крок наперад» у гэтым напрамку, то праз тры тыдні — 12 лістапада — Ніксан аб'явіў аб пачатку новага этапа ў эскалацыі агрэсіі — татальнай паветранай вайне супраць ДРВ і патрыятычных сіл вызвалення Паўднёвага В'етнама. Зрэшты, як адзначыў заходнегерманскі часопіс «Шпігель», заўсёды, «калі вайна, здавалася пойдзе на спад, на Індакітай штомесяц падалі амерыканскія бомбы, выбуховая магутнасць якіх удвая перавышала магутнасць атамнага выбуху над Хірасімай». А ў апошні час стратэгі Пентагона ажыццяўляюць страшэнную задуму — «геафізічную» або «метэаралагічную» вайну, разлічаную на паражэнне праціўніка з выкарыстаннем сіл прыроды. «Геафізічная вайна» гэта наўмыснае знішчэнне навакольнага асяроддзя, выкарыстанне ў ваенных мэтах стыхійных бедстваў. (А.К.)

### УРАДЖАЙ

Паводле інфармацый, якія паступаюць з калгасаў і саўгасаў Беларусі, ураджай у гэтым годзе шмат лепшы, чым быў год таму назад. Напрыклад, у калгасе «Ленінскі шлях» каля Жыткавіч намалочваюць па 30 цэнтнераў жыта з гектара, у калгасе «Чырвоная зорка» Стаўбцоўскага раёна — таксама 30 цэнтнераў, у калгасе «Гігант» у Міёрскім раёне — 25 ц., у калгасе «Дружба» Зельвенскага раёна — аж 40 цэнтнераў жыта з гектара сабралі камбайны.

І гэта яшчэ не рэкорд ураджаю. Вось хлебаробы з калгаса «Перамога» пад Баранавічамі сабралі па 45 цэнтнераў пшаніцы з гектара, а ў калгасе імя Заслонава Докшыцкага раёна ячменю было па 50 і больш цэнтнераў з гектара.

Пры нагодзе прыпомнім, што сярэдні ўраджай збожжавых для ўсёй Беларусі ў мінулым годзе склаў крыху больш як 21 цэнтнер зерня.

### З БССР У ЛЕЙПЦЫГ

У Мінску адбылася прэсканферэнцыя, прысвечаная Асенняму лейпцыгскаму кірмашу 1972 года. Беларусь удзельнічае ў ім ужо 23 раз. Перш за ўсё ў гэтым годзе будзе яна дэманстраваць там сваё станкабудаўніцтва, бо ў гэтай галіне БССР мае вялікія дасягненні. Кожны 13-ты станок з ліку тых, што будуюцца ў Савецкім Саюзе, належыць беларускім заводам.

У гэтай прэсканферэнцыі, між іншымі, прынялі ўдзел консул ГДР у Мінску Э. Корн і консул ПНР у Мінску Р. Вацлаўскі.

### НА АСНОВЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

*У Полацку ўзводзіцца аграмадны хімічны камбінат, які мае выпускаць 50 тысяч тон поліэтылену. Яго супольнымі сіламі запланавалі і будуюць спецыялісты з ГДР і СССР.*

### 25 ГАДОЎ НА СЦЭНЕ

Народнай харавой капеле Мінскага трактарнага завода споўнілася чвэрць стагоддзя. Яна арганізавалася як харавы гурток з 20-ці чалавек на пачатку будаўніцтва прадпрыемства. Цяпер гэта вядомы далёка за межамі рэспублікі калектыў з высокай харавой культурай. У яго рэпертуары звыш 150 твораў. Даў ён больш 700 канцэртаў, на якіх пабывала паўмільёна слухачоў. Кіруе капелай Міхась Дрынеўскі.

### ЛЕТНІ АДПАЧЫНАК

Рабочыя Магілёўскага металургічнага завода імя Мяснікова пабудавалі сабе базу летняга адпачынку ў маляўнічым месцы на беразе ракі Друць, ля вёскі Чачэвічы. Для іх выгоды і забавы ёсць там бібліятэка, тэлевізар, шахматы, лодкі, спартыўны інвентар, рыбалоўныя прылады.

### ДЗЕЦІ КАЛГАСНІКАЎ

Каля 100 тысяч дзяцей працаўнікоў вёскі правяло канікулы ў міжкалгасных піянерскіх лагерах і ў іншых месцах калектыўнага адпачынку. У 145-ці лагерах школьнікі адпачывалі і адначасова працавалі. (вр)

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО

24 жніўня адбылося пасяджэнне Палітбюро Цэнтральнага камітэта ПАРП, якое прысвячалася абмеркаванню ўдзелу І сакратара ЦК ПАРП Э. Герка ў крымскай сустрэчы прадстаўнікоў цэнтральных улад сацыялістычных краін, актуальным справам адносна заканчэння жніўных прац і дапамогі пацярпеўшым ад паводкі ў некаторых раёнах нашай краіны.

### ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ МІНІСТРАЎ

25 жніўня адбылося пасяджэнне Рады Міністраў, на якім была праведзена ацэнка выканання нацыянальнага гаспадарчага плана за мінулыя 7 месяцаў, а таксама дадатковых задач, якія прынялі рабочыя калектывы ў рамках акцыі «20 мільярдаў» у адказ на заклік Сакратарыята ЦК ПАРП і Прэзідыума Урада.

### СУСТРЭЧА Э. ГЕРКА І П. ЯРАШЭВІЧА

20 жніўня І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк і старшыня Рады Міністраў П. Ярашэвіч правялі сустрэчу з І сакратаром ЦК БКП, старшынёю Рады Дзяржавы Балгарскай Народнай Рэспублікі, Тодарам Жыўковым і старшынёю Рады Міністраў, Станко Тодаравым. На сустрэчы былі абмеркаваны палітычныя і гаспадарчыя адносіны паміж дзвюма дзяржавамі, а таксама праблемы навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва і культурнага абмену. Пасля афіцыяльных размоў з прадстаўнікамі найвышэйшых улад Балгарыі, І сакратар ЦК ПАРП Э Герэк і старшыня Рады Міністраў П. Ярашэвіч наведалі турысцкі комплекс «Залатыя Пяскі».

### ВІЗІТ Э. ГЕРКА

26 жніўня І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк наведаў Альштынскае ваяводства, у якім правёў сустрэчы з калектывамі некаторых ПГР-аў, знаёміўся з умовамі іх працы, ураджаямі, а таксама падрыхтоўкай да капання бульбы.

### НАРАДА СТАРШЫНЬ

24 жніўня адбылася ў Варшаве нарада старшынь ваяводскіх камісіяў планавання, якая прысвячалася гаспадарчым планам на 1973 год. Нараду вёў І намеснік старшыні камісіі планавання пры Радзе Міністраў — праф др. К. Сэцомскі.

### ДЗЕНЬ АВІЯЦЫІ

23 жніўня — Дзень Авіяцыі. У гэты дзень жыхары нашай краіны ўшанавалі памяць загінуўшых пілотаў у гады II сусветнай вайны з гітлераўцамі. Вянкі з чырвоных і белых кветак былі пакладзены ля Памятніка пілота ў Варшаве, Познані і Алесьніцы. Апрача таго ў авіяцыйных гарнізонах адбыліся шматлікія сустрэчы жыхароў з пілотамі.

### НОВЫЯ АЎТОБУСЫ

Яшчэ ў гэтым годзе Фабрыка аўтобусаў у Саноку выпусціць 2 тысячы новых аўтобусаў «Санок—09».

### СОПАТ — 72

І месца і ўзнагароду «Янтарнага салаўя» на XII міжнародным фестывалі песні ў Сопаце здабыла польская песня пад загалоўкам «Да закахання адзін крок», якую выканаў спявак А. Дамброўскі.

### БОЛЬШ 150 ТЫСЯЧ ПАЛАНІЙНЫХ ТУРЫСТАЎ...

...наведала сёлета нашую краіну. Найбольш турыстаў прыбыло з ЗША і Германскай Федэратыўнай Рэспубліцы. (ця)

### НАРАДА Ў ВК ПАРТЫІ

22 жніўня ў Ваяводскім камітэце партыі адбылася сустрэча І сакратара ВК ПАРП З. Куроўскага з кіраўнікамі ўстаноў, якія абслугоўваюць сельскую гаспадарку. Удзельнічалі ў сустрэчы таксама сакратар ВК ПАРП Ул. Юшкевіч і кіраўнік сельскагаспадарчага аддзела ВК ПАРП М. Каспэркевіч. Абмяркоўваўся ход жніўнай кампаніі і агульнае становішча ў сельскай гаспадарцы ваяводства. Шмат месца было прысвечана падрыхтоўцы да асенняй сяўбы, ворыву і штучнаму ўгнаенню. І сакратар ВК свае сілы цяпер накіраваць на асеннюю сяўбу, капанне бульбы і буракоў.
ПАРП падкрэсліў, што неабходна ўсе

### З ВІЗІТАМ У БУДАЎНІКОЎ

І сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі наведаў Беластоцкую фабрыку аднасямейных дамоў «Фадом». Ужо ў наступным годзе фабрыка дасць 6300 пакояў, складаных сістэмай ОВТ.

Будаўнікі паказалі І сакратару сваю канцэпцыю загаспадаравання плошчы, выдзеленай ім пад аднасямейнае будаўніцтва па вул. 27 ліпеня, дзе будзе пабудаваны пасёлак будаўнікоў. Побач будуць пабудаваны пасёлкі іншых прадпрыемстваў. Пакуль што будуецца першы пробны дом, але ў будучым годзе павінен будавацца ўжо цэлы пасёлак.

### ПЕРШЫЯ ДАЖЫНКІ

На Беласточчыне ўжо адбыліся першыя дажынкі. У мінулую нядзелю свята ўраджаю адбылося ў Нараўцы (Гайнаўскі павет), Крулях і Калаках (Замброўскі павет), у Бажаеве (Ламжынскі павет) і Саколах (Лапскі павет).

Удзельнікаў урачыстасці, нягледзячы на неспрыяльнае надвор'е, было вельмі многа. Слухалі прамовы гаспадароў і жніўныя песні, глядзелі выступленні самадзейных калектываў, удзельнічалі ў спартыўных спаборніцтвах і народных гуляннях.

### «ВОСЕНЬ — 72»

24 жніўня ў зале Ягелёніі ў Беластоку адбыўся ваяводскі кірмаш «Восень—72». Сарганізавала яго Гандлёвае агенцтва з удзелам аддзела гандлю і прамысловасці Прэзідыума ВРН.

Мясцовыя прамысловыя ўстановы паказалі гандлёўцам свае тавары: прадметы хатняга ўжытку, харчавыя прадукты, трыкатаж, галантарэю, металёвыя і хімічныя вырабы, абутак — на агульную суму 200 мільёнаў злотых. Спадабаліся гандлёўцам вырабы Кольненскай трыкатажнай фабрыкі, якая прадставіла 19 новых узораў, у тым ліку прыгожыя дзіцячыя касцюмчыкі, узорчатыя мужчынскія світары і дамскія блузкі. Беластоцкае харчовае прадпрыемства прадало тавараў на 25 млн. злотых. Ваяводскае прадпрыемства паслуг — на 10 млн. злотых, Мазавецкае харчовае прадпрыемства — на 10 млн. злотых і іншыя.

### З ФРОНТУ «20 МІЛЬЯРДАЎ»

Беластоцкія прамысловыя прадпрыемствы, нягледзячы на сезонныя цяжкасці (месяцы водпускаў, нерэгулярная дастаўка матэрыялаў і інш.), паспяхова выконваюць свае планы і ўтрымоўваюць добрую дынаміку вытворчасці. У рамах акцыі «20 мільярдаў» беластоцкія прадпрыемствы далі ўжо дадаткова вырабаў на 300 мільёнаў злотых. (яч)




**Niedziela 3.IX.**

7.10 Program. 7.15 TV Kurs Rolniczy. 7.50 „Przypominamy, radzimy". 8.00 „Genialny plan pułkownika Kraffta„ — film. 9.00 Kronika Olimpijska. 10.00 Blok Olimpijski. 13.00 Dziennik. 13.15 Dla dzieci: („Ula i świat"). 13.40 PKF. 14.00 Blok Olimpijski. 18.00 Sprawozdanie z Centralnych Dożynek w Bydgoszczy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Walizka na dworcu Paddington" — film ang. 21.00 Blok Olimpijski.

**Poniedziałek 4.IX.**

9.00 Kronika Olimpijska. 10.00 Przerwa. 13.55 Program. 14.00 Blok Olimpijski. w przerwie ok. 17.00 Dziennik. 18.10 „Mistrz tańca" — nowela filmowa. 18.40 „Bitwa o megawaty" — rep. z otwarcia elektrowni „Kozienice". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Letni Przegląd Teatru TV: — „Śmierć gubernatora". 21.10 Blok Olimpijski. w przerwie ok. 22.10 Dziennik.

**Wtorek 5.IX.**

9.00 Kronika Olimpijska. 10.00 „Niedziela Barabasza" — film. 10.25 Przerwa. 13.55 Program. 14.00 Blok Olimpijski. w przerwie ok. 17.00 Dziennik. 18.30 „Mieszkaniowe progi". 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Niedziela Barabasza" — film. 20.25 „Orkan" — rep. 21.00 Blok Olimpijski. w przerwie ok. 22.10 Dziennik.

**Środa 6.IX.**

9.00 Kronika Olimpijska. 10.00 Blok Olimpijski. w przerwie ok. 17.00 Dziennik. 18.15 „Tade" — film Tele-Aru. 18.35 „Świat i Polska". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Serce ludzkie" — film fab. bułg. 21.00 Blok Olimpijski. w przerwie ok. 22.10 Dziennik.

**Czwartek 7.IX.**

8.00 Kronika Olimpijska. 9.00 Blok Olimpijski. 13.00 Matematyka w szkole: „Zbiory". 13.30 Przerwa. 13.55 Program. 14.00 Blok Olimpijski. w przerwie ok. 17.00 Dziennik. 18.05 „Antoni Dworzak" — film dok. czechosł. 18.25 „Ekspress nr 8". 18.50 „Przypominamy, radzimy". 19.00 Dziennik. 19.30 Blok Olimpijski. w przerwie ok. 22.10 Dziennik.

**Piątek 8.IX.**

10.00 Kronika Olimpijska. 10.55 Blok Olimpijski. w przerwie ok. 17.00 Dziennik. 18.30 „Ballady ludowe" — program TV Czechosł. 18.50 „Rybacy z Hastings" — film dok. („Człowiek i morze"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 19.55 „Champion" — nowela film. USA. 20.25 „Kraj". 21.00 Blok Olimpijski. w przerwie ok. 22.10 Dziennik.

**Sobota 9.IX.**

9.00 Kronika Olimpijska. 9.55 Blok Olimpijski. w przerwie ok. 14.25 Program I proponuje. w przerwie ok. 17 00 Dziennik. 17.55 „Bułgaria" — film dok. 18.20 Monitor. 18.55 Blok Olimpijski ,w przerwie ok. 22.10 Dziennik.




**Piątek, 1 września**

10.00 XX Igrzyska Olimpijskie. 12.00 Tourné teatru z Woronieża. 13.05 Nowiny. 14.10 Program. 14.15 Turniej ciekawskich. 15.00 Program z okazji rozpoczynającego się nowego roku szkolnego. 15.30 „Zdrowie". 16.00 „Ziemia i ludzie". 16.40 Przemówienie ministra oświaty. 17.10 „Pierwszoklasistka" — film. 18.15 Telewizyjny almanach. 19.00 Czas. 19.30 XX Igrzyska Olimpijskie.

**Sobota, 2 września**

6.30 Dla techników. 7.00 Program. 7.05 Gimnastyka. 7.20 Nowiny. 7.30 Program dla dzieci. 8.00 „Zdrowie". 8.30 Przegląd międzynarodowy. 8.45 Szkatułka muzyczna. 8.55 Reportaż o rzeczyckich naftowcach. 9.10 Dokumentalny film o Wietnamie. 10.00 XX Igrzyska Olimpijskie. 12.50 Piosenki M. Frydkina. 11.35 Świat oczyma radzieckiego człowieka — Chile. 14.00 Koncert. 14.30 W świecie zwierząt. 16.00 Nowiny. 16.10 „Urodzaj do zasieków". 16.30 Zaprasza studium koncertowe. 17.20 „Białe wilki" — film. 19.00 Czas. 19.30 XX Igrzyska Olimpijskie.

**Niedziela, 3 września**

6.30 Program dla techników. 7.00 Program. 7.05 Gimnastyka dla dzieci. 7.20 Nowiny. 7.30 Budzik. 8.00 Sport. 10.00 XX Igrzyska Olimpijskie. 12.00 Dzień naftowców. 12.30 Kiosk muzyczny. 13.00 Główna biblioteka republiki. 13.30 Program filmów rysunkowych. 14.00 Na drogach republiki. 14.15 Koncert. 14.45 Sianie ozimych — główna uwaga. 15.00 Klub kinopodróżników. 16.00 Nowiny. 16.10 „Szyb na morzu" — film. 16.25 Koncert życzeń. 17.10 „Czas". 19.30 XX Igrzyska Olimpijskie.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 164


* ✲ *

*Ёсць у Варшаве хараство*
*Грэцкіх німф і рымскіх кар'ядыт,*
*Калі з неонавых кастроў*
*Вечарам*
*Сірэнай з Віслы, голая,*
*Выходзіш ты*
*І неба зорнае*
*Рукою кволаю*
*У ручніку разгорнутым*
*Трымаеш над сабой.*

*Ёсць у Варшаве хараство*
*Алімпійскіх ігр і гладыятарскіх арэн,*
*Калі шнурочкамі мастой,*
*Як багіні Нікэ,*
*Праходзяць Ванды, Ірэны...*
*А дома — да грудзей іх*
*Прыпікнуць*
*Усялякія Ромулы і Рэмы.*
*А ў касцёлах*
*Анёлаў стая*
*У сэрцы людзей каханне ўганяюць.*
*Моляцца, моляцца, часта дзяўчаты*
*Да хараства на крыжы распятым —*
*Варшава, майго сярэдневякоўя яма,*
*Над цэлым светам тваім дым фіміяма.*

*Я. Чыквін*



* ✲ *

Ноч. Цёмна. Адчыняю акно, каб увайшло трохі свежага паветра. Навокал цішыня. Не чуваць ні шолаху, ні найменшага шуму. Лажуся ў ложка. Засынаю...

Сніцца мне, што хаджу па агародзе поўным рознакаляровых кветак. Становіцца мне душна. Раптам... штосьці чую. Якісьці тупат, трэск, гул даносіцца да маіх вушэй. Хтосьці мяне крапае рукой халоднай, як лёд, тармосіць, шчыпле, чую, што пачынае душыць. Прачынаюся і зноў засынаю. Паўтараецца тое ж самае. Зноў прачынаюся. Адкрываю вочы. Навокал ззянне. Зрываюся на ногі і мігам бягу ў дзверы. Адчыняю. Падае на мяне сноп святла. Нічога не бачу. Зноў зачыняю дзверы і вяртаюся ў пакой. Усюды спакой і цішыня, толькі адкульсьці здалёк чутны глухія водгукі грому. У пакой цераз адчыненае акно заглядае вясёлае сонейка, даносіцца пах чаромхі і свежае, вільготнае паветра, якое звычайна бывае пасля веснавой навальніцы.

Стаю зачараваная...

*Мар'я Семянюк*

## МНЕ ТРЭБА НЯМНОГА



**Мне**
**трэба**
**да шчасця**
**нямнога**
**Яснае сонейка**
**можа**
**як цёмныя хмары**
**на небе**
**разагнаць**
**так і раз'ясніць**
**мрокі душы**
**Цёмныя думкі**
**і смутак**
**заступіць**
**радасцю**
**Вясёлы дзень**
**адзін**
**хапае на**
**тыдзень цэлы**
**без усмешкі**
**Штосьці добрае**
**хаця маленькае**
**больш важна**
**у мяне**
**чым многа**
**злых рэчаў**
**Мне**
**да шчасця**
**трэба**
**нямнога**
**Яшчэ толькі**
**ў душы**
**маладым**
**быць вечна**
**Ісці**
**праз жыццё**
**смела**
**Верыць трэба**
**што**
**як па бурах**
**па дажджах**
**радуга на небе**
**заквітае**
**Цяплей**
**прыгажэй усюды**
**Так і слёзы**
**аднаго дня**
**высушыць**
**усмешка другога.**
**І верыць**
**ў свае сілы**
**І прагнуць вечна**
**да канца**
**заваяваць**
**свет цэлы.**

**Ірэна Баравік**

## БУДЗЕМ СТЭРЭГЧЫ

*Ніне Салавей*

Заходыт сонце —
А куды плывэ нашэ жыцe?
Куды спішают людэ?
Жаль —
як хутко всё проходіт — мінае.

* ✲ *

*А я в ейі твар*
*Дывюсь як в люстэрко,*
*Молодая...*
*Грудьмі колышэ.*
*Засіялі очы —*
*Нэ шкодуй роскошы,*
*Давай забудэм обо всіом,*
*Нэхай затрымаецця наш час*
*Нэхай шчасце —*
*росплывэцця по тіелі.*

* ✲ *

І знов всходыт сонце,
— Кажэш —
Наша радосьць
— Вонэ —
я і ты
Будэм стэрэгчы
Бо то новэ жыцe.

*Ваня Кірызюк*



## РУЖА



Сумна глядзяць
вочы,
паволі скланяецца
галава...
Рукі зялёныя
бялеюць.
гэта сарваная
ружа!
Як цябе шкода
пахучая
істота,
пазбавілі цябе
жыцця
і ты паміраеш.
Ты ляжыш
на стале
і ціха
просіш вады.
Не!
Ты не памрэш!
Я цябе
ўратую!
Устаўлю цябе
ў ваду

**Ніна Гаўрылюк**

* ✲ *

А мне там што да спраў,
якіх я вырашыць не ў стане.
Я свет застаў
і свет пакіну
ў пэўнай форме.
Мне лепш
на травы лугавыя глянуць,
каб перастаць быць чорным.
Як красавік набракнуць
песняю зялёнаю,
і ляпнуць глупства,
і быць братам ісцін.
Непаслядоўнасць ты мая шалёная
пад шумам лісцяў.
Дурненькія мы, братцы,
ой, дурныя,
хаця ў сталіцах розумы паелі.
Хватае шчыры смутак
нас за шыю
і цягне, як целяты, да аселіц.
І толькі там
мы зможам зноў вярнуцца,
залезць у сэрц уласных пуні,
назваць сябе
машэннікам і буцам,
на беспрынцыпную
прынцыпнасць
плюнуць.

**Алесь Барскі**



## ДЭБЮТ • ДЭБЮТ • ДЭБЮТ

### Рыгор Здрайкоўскі



Нарадзіўся я 7.10. 1955 года ў Агародніках Бельскага павету. Там я і скончыў чатыры класы пачатковай школы. Восьмы клас канчаў у Галадах. Цяпер я вучуся ў II класе Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Б. Тарашкевіча ў Бельску Падляшскім. Выбраў я гэты ліцэй таму, што вельмі люблю беларускую мову.

### ВОБРАЗ

**Говорыт до мэнэ**
**нэзвычайным голосам**
**голосам нэзнаным**
**нэ одкрытым**
**пэрез учоных нашого света**
**говорыт**
**о чоловеку**
**о чынах**
**о мыслях.**
**як бульш дівюся**
**на яго**
**зачынаю розуметі**
**жыццё чоловека**
**его чыны**
**і его мыслі**
**дівюся по покоі**
**і ўсюды бачу вобразы**
**і бачу на каждым**
**што інное**
**а ведаю што**
**воны говорат об одным**
**об жыцці**
**чоловека.**

### Анна Дэнісюк



Нарадзілася я 27 ліпеня 1956 года ў Плёсках Бельскага павету. У Плёсках я і скончыла пачатковую школу. Цяжкасцей у мяне з навукай не было. З малых год марыла аб паступленні ў Бельскі беларускі ліцэй. Цяпер у ім вучуся. Вершы я таксама палюбіла з малых год. Я часам не магу жыць, каб не выказаць у вершы сваіх думак.

### СЭРЦА

**Кветка жыцця — сэрца маё,**
**Ты для мяне так працуеш**
**Няспынна.**
**У грудзях маіх спакою табе няма,**
**І ты хочаш бегчы наперад —**
**І радасць мне несці.**

# Адукацыя пачынаецца ад мовы

Навучанне беларускіх дзяцей роднай мове мае велізарнае аб'ектыўнае значэнне ў дзейнасці школы наогул.

Ужо ў дашкольным узросце дзіця засвойвае сабе асноўны запас слоў і вынікаючых з іх уяўленняў аб свеце. Прыходзіць яно ў школу з дастатковай здольнасцю выказваць пачуцці, спасцярогі, думкі. Мова, прысвоеная яму родзічамі ды асяроддзем, з'явілася сродкам развіцця ягонай асабовасці. Дзякуючы ёй, мове, дасягнула яно пэўнага інтэлектуальнага ўзроўню, які павінен хутка павышацца пры дапамозе школы, настаўнікаў. Заўважана гэта даўно. Выдатны польскі вучоны, Станіслаў Шобэр, пісаў:

**„To doniosłe, a tak swoiste znaczenie wykładu języka ojczystego wynika stąd, że jest on składową cząstką procesów umysłowych jednostek należących do danej grupy narodowościowej".**

Дзіця, ідучы ў школу, думае і перажывае на мове сям'і, асяроддзя. Даступныя яму з'явы навакольнага жыцця ўспрыймае яно пры пасрэдніцтве мясцовых слоў. Мове належыць цэнтральная роля ў працэсе пазнавання чалавекам свету.

**„Ze wszystkich przejawów psycho-socjalnych najbardziej odpowiada celom kształcenia umysłu język, ponieważ jest on w głowach uczniów już gotowym i ostatecznie sformułowanym",**

— пісаў слаўны мовазнавец Я. Бадуэн дэ Куртэне. Маючы на ўвазе значэнне прадмета роднай мовы, сцвярджаў далей:

**„Każde dziecko ma prawo wymagać od nauczyciela, ażeby mu uświadomił jego własny język, ten niewyczerpany materiał do jak najobszerniejszych i najgłębszych spostrzeżeń'".**

Галоўнай крыніцай навучання мовы з'яўляецца асяроддзе. Вось фундаментальны прынцып сучаснай методыкі.

Глыбока педагагічнымі з'яўляюцца пастулаты тых настаўнікаў, якія лічаць, што дасягненне высокай эфектыўнасці ў пачатковым навучанні польскай мовы абумоўлена веданнем мовы роднага дзіцяці асяроддзя. Дзякуючы такому падыходу захоўваецца сувязі паміж мовай сям'і і асяроддзя, і мовай школы. Мае гэта, проста, капітальнае значэнне!

Дарэчы будзе прыгадаць тут думку іншага вялікага аўтарытэту, Казімежа Ніччэ, які ў вельмі цэненым артыкуле

**„Kilka słów o celach nauczania języka ojczystego",**

піша, што навучанне роднай мове моцна дапамагае дзіцяці:

**„... zdanie sobie sprawy z istoty zjawisk i zmian językowych, co oczywiście można osiągnąć tylko na podstawie własnego najlepiej sobie znanego języka, obce zaś służyć mogą tylko do rozszerzenia horyzontu".**

Ва ўмовах школы ў вёсцы, дзе роднай мовай вучняў з'яўляецца беларуская, навучанне гэтай мовы стаецца педагагічнай неабходнасцю, гарантыяй добрых вынікаў у рэалізацыі выхаваўчых задач.

*С. Яновіч*

# ФАЛЬКЛОР

## СІРОЦКАЯ




*Кує зозулька, кує сывоя,*
*По саду літаючы.*
*Плачэ дывчына, плачэ сырота,*
*Быз батэнька жывучы.*
*— Бодай зозулька, бодай сывоя*
*На літо ны ковала,*
*Як выковала мого батынька —*
*Я й сырота зустала.*
*— Як я ковала — коваты буду,*
*По саду літаючы.*
*Як ты плакала — плакаты будыш,*
*Быз батынька жывучы.*

## ВЯСЕЛЬНАЯ*)

*Ой, заржы, поржы, сывы коніку,*
*Рано на пашу йдучы.*
*Ой, чы нэ вчуе моя дывчына,*
*З руткі выночкі в'ючы.*
*Скоро й учула, скоро й узнала*
*Ранэнько заплакала.*
*То того хлопця сывы конь іржэ,*
*Што я вірно кохала.*

*Мелодыя такая, як песні «Сіроцкай — «Кує зозулька» — С. А.

**Ад Внучко Анны, 1904 года нарадджэння, вёска Чарэмха, Гайнаўскага павету, запісаў 17 мая 1972 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Сяргей Лукашук.**




Пані Зіна Хмель у радасным настроі: старшы сын Міраслаў здаў экзамены і прыняты ў Лясны тэхнікум у Белавежы. Хоць і было па чатыры кандыдаты на адно месца, але хлопец падрыхтаваўся як след, папрацаваў і вынік ёсць. Бацька, малодшы сын, ну і сам будучы ляснік цяпер ходзяць па хаце шчаслівыя, у іх толькі і гаворкі, што аб прыгажосці лесу ды атракцыях у лясной службе. А ў матулі, вядома, апрача радасці яшчэ і клопаты, бо хлопцу два зялёныя школьныя мундзіры справіць зараз жа трэба, і туфлі, і кашулі адпаведныя, і шапку. Давялося аб'ездзіць і Бельск, і Беласток і Гайнаўку. Але вось усё ўжо ўтрэсена і можна дыхнуць па-чалавечы.

Зрэшты, пані З. Хмель — настаўніца пачатковай школы ў Чыжах Гайнаўскага павету — не прывыкла да адпачынку. Адразу ж пасля заканчэння ў 1959 г. Педагагічнага ліцэя ў Беластоку прыехала працаваць на Гайнаўшчыну. Спачатку вучыла ў Трасцянцы, а вось ужо 12 год працуе ў Чыжах. На першых парах вучыла розных прадметаў, «што давалі, то і брала, — як яна сама прызнаецца, — але вучыла пераважна беларускай мове, бо родам я з Белавежы, і з маленства гавару па-беларуску». Блізкі сэрцу прадмет захапіў маладую настаўніцу, і яна рашыла паглыбіць свае веды па беларускай мове і літаратуры, па метадычным прадметам. У 1962 г. паступіла на беларускую філалогію Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку. І хоць працаваць у школе і адначасова вучыцца — не такая лёгкая справа, у 1965 годзе пані З. Хмель з летняй сесіі вярнулася з дыпломам заканчэння студыі. Потым для павышэння сваіх кваліфікацый два разы ездзіла на настаўніцкія курсы ў Мінск.

— Люблю свой прадмет, сцвярджае пані З. Хмель, — і стараюся ўрокі па беларускай мове праводзіць жыва і цікава. Вучу ў V — VIII класах. Калі набліжалася тэма аб творчасці Я. Коласа, я пасля ўступнай гутаркі аб пісьменніку падзяліла клас на групы, вызначыла ім праблемы і накіравала ў школьную і грамадскую бібліятэкі на пошукі матэрыялаў. Вучні праявілі столькі самастойнасці і старанняў, што потым было аж радасна слухаць іх справаздачы аб прачытаных, звыш праграмы, творах вялікага пісьменніка і артыкулах аб яго жыцці і дзейнасці! Заўсёды planую працу з дзяцьмі так, каб раз у тыдзень уламіць хоць паўурока на агляд «Нівы» ці «Зоркі». Падпісчыкаў гэтых часопісаў у нашай школе многа, у чатырох класах, дзе я вучу, іх звыш сямідзесяці. Два — тры ўрокі ў чвэрць прысвячаю выбраным тэмам па гісторыі Беларусі. Бяда толькі, што няма школьнага падручніка да навучання. Дзеці ўсё яшчэ карыстаюцца «Беларускім календаром» на 1969 год, дзе былі змешчаны «Гутаркі па роднай гісторыі», перадаюць гэтае выданне амаль што «з пакалення ў пакаленне». Школам вельмі патрэбен стабільны, нармальны падручнік, без яго і нам, настаўнікам, і вучням вельмі цяжка рэалізаваць гэтыя тэмы. Вельмі патрэбны нам таксама метадычны дапаможнік для навучання беларускай мовы. Калі ўжо мы яго дачакаемся?!

Працавітыя дні і тыдні Зінаіды Хмель — гэта не толькі ўрокі ў школе і трое мужчын у сям'і, ад якіх дапамогі ў хатніх абавязках не так ужо і многа. У падставовай партыйнай арганізацыі ПАРП у школе яна — сакратар. Працы ёсць. У старэнькім школьным будынку знаходзяцца толькі два класы, пяць пакояў наймае ГРН у прыватных дамах. Ужо некалькі год цягнецца справа пабудовы новай школы, але Бельскае будаўнічае прадпрыемства не хоча ўзяцца за гэту працу. Словам, ёсць у школе ў Чыжах свае праблемы, і сакратару ПОП прыходзіцца імі займацца штодзень.

У сельскагаспадарчым гуртку ў Чыжах Зінаіда Хмель таксама сакратаром. А тут не менш праблем. Гурток доўгі час «ехаў» на стратах. Цяпер прыйшоў новы кіраўнік міжгуртковай машыннай базы Мікалай Ласінскі, устанавіў дысцыпліну і парадак. Праца пайшла на лепшае, а пры гэтым ёсць чым займацца сакратару.

Сярод гэтых «мужчынскіх» роляў ёсць у Зінаіды Хмель і «жаночая»: зноў сакратара, але ўжо ў гуртку вясковых гаспадыняў. У гуртку 65 жанчын і цэлы кашэль прац, планаў, справаў і праблем. Сялянкі ў Чыжах ні ў чым не хочуць уступаць гарадскім «паням». Правялі ў сябе курсы па вырабу мясных прадуктаў, а таксама гатавання і пячэння і цяпер, паверце, сервіроўка сталоў у чыжоўскіх дамах — ёсць на што глянуць, а тым больш — скаштаваць. І пра жывёлагадоўлю ў Чыжах паклапаціліся кабеты. Вясною гэтага года арганізавалі супольны догляд куранят. Мікалай Сегень адступіў «для бабоў» сваю старую хату, бо ўжо сам у новы дом перайшоў. Там і выгадавалі семсот куранят. Ужо другі год падрад жанчыны апрацоўваюць два гектары зямлі з дзяржаўнага зямельнага фонду. Сеюць лён. У мінулым годзе было 12 тысяч злотых даходу. За іх працавітыя чыжоўскія гаспадыні «фунднулі» сабе двухдзённую экскурсію спецыяльным аўтобусам у Варшаву. Наведалі тэатр, Лазенкі, Вілянова, пабывалі ў заапарку і на аэрадроме ў Акэнці. Экскурсія была багатая — ёсць што ўспомніць. У гэтым годзе лён трохі слабейшы, але таксама будзе даход. На час жніва гурток арганізаваў у школьным будынку грамадскі дзіцячы сад. Старшыня гуртка Мар'я Іґановіч занялася ў ім кухарскімі справамі, нанялі таксама 2 дзяўчыны на выхавацеляў. Бацькі плацілі па 130 злотых ад дзіцяці, а трохі дапамагла і гмінная спулдзельня з Гайнаўкі. На найбольш працавіты ў гаспадарцы час 20 дзяцей мела адпаведную апеку. У Чыжах жанчыны не супраць, каб арганізаваць і добрую дахадовую «забаву». І гэта ім удаецца. На ашчаднай кніжцы гуртка ўжо сабралася пэўная сума грошай. Яе, пабольшаную з дабравольных складчын ад сялян Чыжоў, жанчыны намерваюцца аддаць на пабудову помніка на Сярэбранай горцы, што непадалёк вёскі. Там у часе апошняй вайны пала смерцю герояў некалькі савецкіх салдат. І сялянкі з Чыжоў хочуць ушанаваць іх, перадаць памяць аб паўшых барацьбітах за свабоду гэтай зямлі новым пакаленням. Высакародны гэта пачын.

Калі наша размова з паняй З. Хмель набліжалася к канцу, я не пасмеў запытаць пра яе бліжэйшыя і далейшыя жыццёвыя планы. Яны і так былі вядомы: праца для школы і чыжоўскага грамадства. Але на развітанне яна паведаміла:

— А ведаеце, я ўсё ж у будучым годзе выберуся на завочнае аддзяленне беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Хачу пашырыць свае веды па майму любімаму прадмету.

*Размаўляў Мікалай Гайдук*

## Ці ведаеце, што...

...жыхары Беластоцкага ваяводства маюць 102 тысячы радыёпрыёмнікаў і 114 тысяч тэлевізараў.

...у нашай краіне дзейнічае 27 тысяч гурткоў ПЦК (Польскі чырвоны крыж), якія згуртоўваюць 5 мільёнаў членаў.

...сельгасгурткі на Беласточчыне пераняді больш 10 тысяч гектараў зямельных угоддзяў ПФЗ. Найбольш ПФЗ загаспадаравалі сельгасгурткі Сакольскага павету — 1600 га.

...у Гайнаўскім павеце дзейнічае зараз 120 сельскагаспадарчых гурткоў і МБМ-аў з агульнай колькасцю 8 302 членаў. Карыстаюцца яны машынамі агульнай вартасці 85 мільёнаў злотых. Найлепш працуюць сельгасгурткі і МБМ-ы ў Навасадах, Кляшчэлях, Саках, Горным каля Гайнаўкі і ў Тафілаўцах. (ця)

ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ «НІВУ»!



# На развалінах

Гэтыя жылыя карпусы знаходзяцца ў раёне вуліцы Герояў Гета ў Беластоку.

І сапраўды, у гэтым раёне ў час акупацыі гітлераўцы абсталявалі гета для яўрэяў Беластока і многіх іншых мястэчак Беласточчыны. Летам 1943 года прыгавораныя на смерць яўрэі ўзбунтаваліся. Некалькі дзён адчайна змагаліся яны з фашыстамі. Гітлераўцы, каб супакоіць паўстаўшых, зраўнялі з зямлёю ўсе жылыя дамы. У Беластоцкім гета засталіся толькі попел і развалiны.

Цяпер там прыгожы жылы квартал.

**Тэкст і фота В. Р.**

КУПАЛІЯНА




*Успаміны брата Вінцука Станкевіча аб Уладзіславе Станкевіч, жонцы Янкі Купалы.*

*(Заканчэнне)*

### У ВІЛЬНІ

У Вільні, дзе Уладзя працавала ў прыюце, а пасля ў школе, яе вельмі любілі падапечныя дзеці і вучні, з якімі яна ўмела дружыць. У той час яна пісала вершы па-польску і апавяданні пра бацькаўшчыну, якія друкаваліся тады ў варшаўскім тыднёвіку «Ziarno». Некалькі яе вершаў па-беларуску змясціла газета «Наша Ніва» ў Вільні, і з гэтай прычыны яна часта бывала ў рэдакцыі. Там пазнаёмілася яна з беларускімі дзеячамі, згуртаванымі вакол «Нашай Нівы» — Русецкім, Аляхновічам, Змітраком Бядулем, якія некалькі разоў прыязджалі ў часе канікул у нашу лесьнічоўку Каралінава. І вельмі пасябравалі з Уладзяй і нашымі бацькамі.

У 1905 годзе мы з Уладзяй прачыталі ў газеце «Северо-Западный Край» верш незнаёмага нам тады паэта Янкі Купалы «Мужык», гэты верш нам вельмі спадабаўся. Мы захацелі пазнаёміцца з паэтам. Уладзя была вельмі задаволена, калі ў 1908 годзе ў Вільні знайшла першую кніжку Янкі Купалы «Жалейка». У тым жа годзе рэдактар «Нашай Нівы» Луцкевіч запрасіў Янку Купалу працаваць у рэдакцыю і дапамог Янку атрымаць працу ў бібліятэцы Данілевіча. Уладзя тады пазнаёмілася з Янкам.

У 1909 годзе Янка выехаў у Пецярбург і там вучыўся на курсах Чарняева. У Пецярбургу ён выдае зборнік вершаў «Шляхам жыцця» і ў тым жа годзе вяртаецца з Пецярбурга ў Вільню. Пачынае працаваць журналістам у «Нашай Ніве». Уладзя часта сустракалася з Янкам. Я таксама часта прыязджаў у Вільню па службе і сустракаўся з Уладзяй і беларускімі дзеячамі.

Надышоў год 1914. Пачалася вайна. У пачатках 1915 года Уладзя выязджае ў Маскву, куды таксама прыязджае яе прыродная сястра Марыя Манет са сваім мужам Лявонам Адынцом. У Маскве Уладзя працуе ў Камітэце дапамогі ахвярам вайны. У той час я быў пакліканы ў якасці афіцэра рэзервных войск тэхнічных у армію і служыў у шаснаццатым вайскова-дарожным аддзеле. Ян Луцэвіч з рэдакцыі «Нашай Нівы» эвакуаваўся спачатку ў Арол, а з Арла ў канцы 1915 года прыязджае ў Маскву і жэніцца з Уладзяй. У той час яго паклікаюць у армію. Я пастараўся, каб яго прынялі ў той самы аддзел, дзе служыў і я. Служылі мы спачатку ў раёне Полацка, а пасля ў раёне Смаленска. У 1918 годзе Янка з Уладзяй вярнуліся ў Мінск, а я быў накіраваны ў Смаленскі леском, дзе са сваім атрадам ахоўваў і праводзіў экспартны сплаў лясных матэрыялаў у Англію.

### ПАПЛЕЧНІЦА ВЯЛІКАГА ПАЭТА

Янка Купала з Уладзяй жылі вельмі добра, і ў Мінску іх вельмі шанавалі і любілі. У іх доме пастаянна было поўна людзей. Я ў той час бываў у Мінску і быў сведкам, як безупынна ў доме Янкі і Уладкі бывалі беларускія дзеці, якія вучыліся ў мінскіх школах, жылі яны і харчаваліся ў Луцэвічаў. Таксама поўна было ў іх моладзі з вёсак Міншчыны. Бываў кожны дзень Якуб Колас і іншыя пісьменнікі. Уладка была найбольш суровым рэцэнзентам іх твораў. Часта Купала і Колас пыталі Уладзю аб яе меркаваннях наконт іх твораў і лічыліся з яе думкай, папраўлялі вершы так, як раіла ім Уладзя. Янка і Уладзя, хаця і мелі розныя характары, жылі згодна і любілі гуртаваць вакол сябе шмат сяброў. Часта пры гаворцы пісьменнікаў на стале паяўлялася чарка, паколькі Янка і Уладзя любілі ў добрай кампаніі крыху выпіць.

Помню, як Янка з Уладзяй прыязджалі да нас у госці ў Белаполле, і мая жонка, хочучы іх добра пачаставаць, да закускі падала вішнёўку. Уладзя спрабавала і кажа: «Што ты, Лёня, нам дала, гэта не гарэлка, а гліцэрын! Вось у нас у Мінску водка-смірноўка харошая, а гэтыя вашы польскія гатунковыя толькі для даўнейшых паноў, а не для нас гэты гліцэрын». Жонка на шчасце мела ў буфеце бутэльку чыстай. «Ну, гэта трохі лепшая», — кажа Уладзя, — але ўсё не тое, што наша смірноўка ці зуброўка». Калі пачалася ў 1941 годзе вайна, Янка з Уладзяй спачатку жылі ў іх вілле, якую Янка дастаў ад савецкай улады ў Леўках каля Оршы. Калі нямецкія фашысты наблізіліся, тады яны пераехалі ў Курск, а ў 1942 годзе Янка Купала памёр у Маскве.

### ЦЁЦЯ УЛАДЗЯ

Пасля смерці Янкі Купалы, Уладзя, якую ўсе сябры і знаёмыя звалі цёця Уладзя, усе свае сілы прысвячае працы над увекавечаннем памяці Янкі Купалы. Ужо ў Курску арганізуе яна пачаткі музея паэта і збірае да яго экспанаты, а пасля вызвалення Мінска ад фашыстаў пры дапамозе ўлад арганізуе літаратурны музей імя Янкі Купалы і да апошніх дзён сваіх была яна дырэктарам гэтага музея. Савецкая ўлада Беларусі высока ацаніла працу Уладзіславы Луцэвіч, узнагародзіла яе медалямі і прызнала высокае званне Заслужанага дзеяча культуры БССР. У музеі, апрача іншых працаўнікоў, памагала Уладзі дачка сястры Янкі, Ядвіга Рамаshоўская, якая і цяпер там працуе захавальнікам музея.

Уладзя не шчадзіла сябе, была загартавана на холад, але не дбала пра сваё сэрца. Няраз я сам бачыў, як вясной, калі толькі з Дняпра, на беразе якога стаяла іх дача ў Леўках, сыходзіла ледавітая хваля, Уладзя ўжо купалася і плавала ў халоднай рэчцы. У 1959 годзе яна пісала мне, што хварэе на запаленне лёгкіх і сэрца ў яе не ў парадку. А ў 1960 годзе 25 лютага яна адчула сябе зусім дрэнна і адразу ж з працы паехала ў бальніцу. Спрацаванае сэрца Уладзі не вытрымала.

У дзень яе пахавання Міхась Калачынскі напісаў:

*«Так птушкі паміраюць, як яна,*
*Забыўшыся аб стоме, у палёце».*

На ціхіх могілках у Мінску, у цені старых соснаў і дубоў, стаяць побач сябе два помнікі — сястры Уладзі і швагра Янкі. Недалёка ад іх ёсць і магілка маёй і Уладзі маткі — Эміліі Манет-Станкевіч, якая хаця і была родам з Францыі, але палюбіла сваю новую бацькаўшчыну Беларусь і прывівала нам, сваім дзецям, любоў і пашану да беларускага люду.



*Магілы Янкі Купалы і яго жонкі Уладзіславы Станкевіч у Мінску на ваенных могілках.*




### БЕЛАКАЧАННАЯ КАПУСТА

### МАЛАДАЯ КАПУСТА СА СМЯТАНАЙ

На адну галоўку маладой капусты бярэм адну лыжку тлушчу, адну цыбулю, адну лыжку мукі, шклянку смятаны, соль, зялёны ўкроп.

Маладую капусту, памыўшы, нашаткаваць разам з верхнімі зялёнымі лісткамі. Нашаткаваную капусту заліць невялікай колькасцю кіпячай вады, дадаць палову тлушчу, дробна нарэзаную цыбулю, крыху солі і цукру. Варыць 12 мінут. З рэшты тлушчу і мукі зрабіць засмажку, дадаць яе да капусты. Патраву заліць смятанай і закіпяціць. Можна прыправіць па смаку цёртым кіслым яблыкам і зялёным укропам.

### ГАЛУБЦЫ З КІЛБАСОЙ

На лісты 1 качана маладой капусты трэба ўзяць 30 дэкаў звычайнай каўбасы, 25 дэкаў памідораў, 1 лыжку маргарыну, 1 лыжку мукі, соль, зеляніну.

Маладыя зялёныя лісты капусты абдаць варам, выразаць качан. Лісты разлажыць на стале, на кожным палажыць кавалак кілбасы, загарнуць. Разагрэць у каструльцы палову тлушчу, палажыць на яго кілбасу, загорнутую ў лісты капусты, даліць невялікую колькасць вады, тушыць. Памідоры працерці, дадаць іх да галубцоў. З рэшты тлушчу зрабіць засмажку і дадаць яе да соусу. Галубцы падаваць з бульбай, пасыпаўшы іх зелянінай.

### ДРОЖДЖАВЫ ПІРОГ З КАПУСТАЙ

На паўкілаграма мукі трэба ўзяць 3 дэкі дражджэй, адну шклянку малака, 2 яечкі, 8 дэкаў маргарыну, соль, паўкілаграма капусты, некалькі сушаных грыбоў, 5 дэкаў тлушчу, соль, перац, адну цыбулю.

Зрабіць дрожджавае цеста, паставіць яго ў цёплае месца, каб падрасло. Зварыць капусту, выпусціць з яе пару, дадаць звараныя асобна і дробна нарэзаныя грыбы, адно сырое яечка, тлушч, соль і перац па смаку. Усё вымяшаць. Цеста расцягнуць на стале ці дэнцы ў форме прамавугольніка. Уздоўж даўжэйшага боку палажыць капусту, у капусце зрабіць ямкі і палажыць у іх чвэрткі крутога яечка. Берагі цеста загарнуць, палажыць на змазанай тлушчам бляшцы, спячы. Падаваць гэткі пірог гарачы.

### ШНІЦЭЛІ З КАПУСТЫ

На адзін невялікі качан валошскай капусты трэба ўзяць 2 яечкі, 1 лыжку мукі, 3 лыжкі цертай булкі, соль, цукар і тлушч.

Капусту з выразаным качаном адварыць у пасоленай вадзе, дадаючы па смаку крыху цукру. Капусту выняць, астудзіць, пасля чаго парэзаць на васьмёркі. Малыя лісточкі ў сярэдзіне адняць, з іншых зрабіць шніцэлі, пасыпаць іх перцам. Кожны кавалак капусты мачаць у цеста, зробленае з мукі і яечка, а пасля ў цёртую булку. Так падрыхтаваныя шньцэлі смажыць на разагрэтым тлушчу. Можна есці і з хлебам, а можна і з бульбай. ***Гаспадыня***

ВЕРАСЕНЬ 1939 ГОДА НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ




Кожны год вяртаемся памяццю да незабыўных верасьнёўскіх дзён 1939 года. Сёння ўжо 33-ці раз, бо 33 гады раздзяляе нас ад гэтай нацыянальнай трагедыі.

Сёння, калі сын запытае, чаго ў 1939 годзе хацелі ад нас немцы, я маю права яму адказаць:

— Хацелі нас знішчыць, знішчыць як найбольш! А тых, хто астаўся б у жывых, хацелі зрабіць сваімі нявольнікамі.

Так, такія ў гітлераўцаў былі намеры, асабліва ў адносінах да Беласточчыны.

Бачу недавер у вачах дзіцяці. Яму цяжка зразумець звярыную істоту фашысцкай ідэалогіі, не пад сілу яму уявіць варварства гітлераўскіх планаў. Таму трэба вяртацца да тадышніх злавесных верасьнёўскіх дзён, трэба прыпамінаць іх вобраз. Бо і цяпер нямала ў свеце такіх, што хацелі б ісці следам «тысячагадовай Германіі».

У верасні 1939 года я быў малодшы ад майго сына, а бацька мой разам з іншымі аднавяскоўцамі пайшоў на вайну, хаця некалькі год раней дэфензіўшчыкі катавалі яго за камуністычную дзейнасць. У маёй памяці захаваўся жахлівы лямант жанчын, якія праводзілі новабранцаў.

А ў Піліпа, якога «дваццатнікам» называлі, быў ужо радыёдэтэктар. Часам і мне ўдавалася налажыць гэтыя гаворачыя навушнікі. Дык ведалі мы, што Польшча з'яўляецца вельмі моцнай дзяржавай, што за мяжой мае верных сяброў, а перш за ўсё — Англію і Францыю, што польскае войска не дазволіць адабраць сабе нават гузіка.

Не давяралі людзі гэтай афіцыйнай прапагандзе, аднак дапамагалі ў абароне, як толькі маглі. У Бельску, Бранску, у Гайнаўцы і ў Саколцы па ініцыятыве болей актыўных мясцовых грамадзян узніклі камітэты дапамогі для сем'яў прызваных у армію. А патрабуючых гэтай дапамогі было вельмі многа. Паводле справаздачы ваяводы, у Бельскім павеце налічвалася іх звыш 3 тысячы. Гарцэры Драгічына і іншых мясцовасцей Беласточчыны збіралі добраахвотныя складчыны на фонд гэтай дапамогі, а таксама на грамадскі фонд нацыянальнай абароны. Нават палітычныя вязні, перш за ўсё камуністы, якія знаходзіліся ў беластоцкай турме, дэкларавалі свае грошы на абарону краіны. Улады рашуча адказаліся ад гэтай дапамогі. «Абаронім айчыну, — ганарліва заявілі, — і без камуністычнай дапамогі!»

У той час недзе ў выгодных апартаментах працавалі вайсковыя штабы. Галоўнакамандуючыя польскімі войскамі асноўныя свае сілы доўгі час накіроўвалі перш за ўсё на ўсход, на граніцу з Савецкім Саюзам. І толькі ў апошнія гады, а нават месяцы маршал Рыдз-Смiглы загадаў апрацаваць план абароны дзяржавы на выпадак агрэсіі з боку гітлераўскага Рэйху. Быў гэта так званы план «Зэт» («Захад»). Прадбачваў ён толькі актыўную абарону і ў асноўным разлічваў на дапамогу Англіі і Францыі.

Польскія спецыялісты па ваеннай стратэгіі не толькі не змаглі ажыццявіць гэтага плана, яны не паспелі завяршыць працу над ім нават на паперы. « Мела гэта, — падкрэслівае вайсковы гісторык, — асноўнае значэнне сярод ваенных прычын паражэння ў 1939 годзе».

Згодна з планам «Зэт» для абароны Беласточчыны была паклікана самастойная аперацыйная групіроўка польскага войска, якую назвалі «Нараў». Камандваў ёю генерал брыгады Чэслаў Млот-Фіялкоўскі. У яе састаў уваходзілі дзве дывізіі пяхоты і дзве брыгады кавалерыі. Асноўныя сілы групіроўкі «Нараў» былі распалажаны ўздоўж тадышняй пруска-польскай дзяржаўнай граніцы ў раёнах Ломжы і Аўгустова.

На гэтай тэрыторыі, асабліва ў наваколлі Сувалак, Віжайнаў, а таксама ў Беластоку і Міхалове пражывала тады крыху немцаў, якія састаўлялі ўсяго ледзь 0,4 працэнта насельніцтва даваеннага Беластоцкага ваяводства. Мелі яны свае ўласныя палітычныя і грамадскія арганізацыі і большасць іх імкнулася верна служыць Гітлеру, хаця былі яны грамадзянамі Польшчы. Вось у Міхалове (Беластоцкі павет) актывісты нямецкага людовага саюза, Оскар Вагнер і Курт Фрэймарк у памяшканні міхалоўскай арганізацыі гэтай фашызуючай партыі яшчэ перад ваеннымі дзеяннямі вывесілі карту, на якой заходнія і паўночныя землі тадышняй Польшчы ўжо адведзены былі да гітлераўскага Райху. Нямецкія палітычныя грамадскія арганізацыі, не гледзячы на іх яўную варожасць, карысталіся поўнай апекай санацыйных уладаў. Гэтыя самыя ўлады забаранялі адначасова дзейнасці для прагрэсіўных літоўскіх і беларускіх арганізацый.

Сярод польскіх палітычных арганізацый найбольш членаў у 1939 годзе на Беласточчыне налічвала нацыяналістычная партыя «Стронніцтво Народовэ», якое перш за ўсё вяло антыбальшавіцкую, антыкамуністычную і антыяўрэйскую прапаганду.

Такое больш менш становішча існавала на нашай зямлі ў той час, калі Гітлер 28 красавіка 1939 года ў славутай прамове перад пасламі райхстага аб'явіў свету, што Германія зрывае падпісаны ў 1934 годзе польска-нямецкі дагавор і патрабуе ад Польшчы аддачы Гданьска і экстэрытарыяльнай шашы, спалучаючай Заходнюю і Усходнюю Прусіі. Тыдзень пазней — 5 мая 1939 года — яго патрабаванні рашуча адкінуў тадышні міністр замежных спраў Польшчы Юзэф Бэк. Так распачаўся паўгадовы перыяд «халоднай» вайны, а 1 верасня 1939 года ў 4 гадзіны 45 мінут раніцы на ўсёй даўжыні дзяржаўную граніцу Польшчы парушылі гітлераўскія полчышчы. Распачалася II сусветная вайна.

Радавыя салдаты рваліся ў бой. Галоўнае камандванне доўгі час, для прыкладу, не дазваляла падраздзяленням групіроўкі «Нараў» правесці баявую атаку на Усходнюю Прусію, а калі

# ТРЫБУНА чытачоў

## НЕДАХОПЫ ГАНДЛЮ

Нядаўна адбылося пасяджэнне грамадскага камітэта ПАРП у Трасцянцы, на якое прыбылі таксама прадстаўнікі гандлёвых устаноў: прэзас ПЗГС-у ў Гайнаўцы П. Бурыла, яго намеснік С. Гаўрылюк і намеснік прэзаса ГС у Нарве М. Грыц. Пасля выступлення сакратара камітэта, Івана Тамашука, згодна з павесткай дня, злажыў справаздачу за першае паўгоддзе 1972 года мясцовы камендант ОРМО.

Затым былі пастаўлены пад абмяркоўку справы, звязаныя з забеспячэннем крам у артыкулы першай патрэбы у час жніва. Многа крытычных слоў было сказана. Прадстаўнікі гандлю чырванелі, калі гаварылася ім аб тым, што ў крамах не хапала мясных кансерваў, аранжады, садовай вады, а нават хлеба. Пад дастаткам было селядцоў. Другая катэгорыя крытычных заўваг датычыла недахопу запасных частак да сельскагаспадарчых машын.

Выслухаўшы ўсё гэта, прэзас ГС-у ў Нарве сябра Грыц запэўніў прысутных, што гэтыя недахопы будуць адразу ліквідаваны. І праўда, наступіла пэўная папраўа ў нашым гандлі.

*М. Лук'янюк, Белкі*




### ОЙ, ВАНЬКА — ВАНЯ!

Іду по гуліці, співаю громко,
Кружыцця в очах, боліт головка.
Ой тяжко-тяжко іты самому,
Колі ж я п'яны зайду до дому?

А совэсць кажэ: — Ой, Ванька-Ваня.
Ты дзісь подобны до хуліґана.

І сэлом руодным іду я далей
Вэльмі помалу, бо ногі вянут,
Бо дзісь горіелкой заліев я душу
І з-за горіелкі страдаті мушу.

А совэсць кажэ: — Ой, Ванька-Ваня.
Ты дзісь подобны до хуліґана.

Сэрэд Крывятыч на сходках склепу,
Хлопці, як мухі, до піва ліепнут.
І я то ж выпів нэ одну міерку
Затрув здоров'е дурной горіелкой.

А совэсць кажэ: «Ой, Ванька-Ваня,
Ты дзісь подобны до хуліґана.

І хоть я выпів нэ вельмі дужо,
Однако й з того сміялісь людэ.
А штоб нэ трув я далієй душу
Вуодку піты кінуты мушу.

Бо совэсць кажэ: — Ой, Ванька-Ваня,
Ты дзісь подобны до хуліґана.

*Ваня Кірызюк*

дазвол такі прыйшоў, дык штабныя афіцэры Падляшскай і Сувальскай кавалерыйскіх брыгад не патрапілі паспяхова выканаць яго. Іх баявыя дзеянні не атрымалі належнай каардынацыі. І толькі дзякуючы адвазе і ахвярнасці салдат, Польскае Войска задакументавала свету тое, што яно першае сярод еўрапейскіх армій ваявала на тэрыторыі гітлераўскага райха. Польскія уланы ў некалькіх месяцах прарвалі прускую граніцу і правялі там баі.

Аб гераізме польскіх салдат найлепш сведчыць беспрыкладная да гэтага часу абарона ўзмоцненага раёну «Візна». 720 салдат і афіцэраў перагарадзілі там дарогу для звыш 43 тысяч чалавек з бронетанкавага корпусу генерала Гудэрыяна. Камандзір польскіх абаронцаў Візны, капітан Уладзіслаў Рагініс пакляўся, што жывы не пакіне месца сваёй абароны. І клятву выканаў. Пасля 10 дзён, калі ўжо не асталося ні людзей, ні боепрыпасаў, калі ўжо сплываў ён крывёю ад ран, апошнюю кулю захаваў для сябе.

Іншыя абаронцы Беласточчыны з групіроўкі Нараў яшчэ доўга супраціўляліся ворагу. 20 верасня апынуліся яны ў раёне Белавежы. Тут наступіла рэарганізацыя сіл. З-пад Белавежы накіраваліся яны ў напрамку Чарэмхі і далей на поўдзень — да Мельніка. За Бугам падпарадкаваліся групіроўцы генерала Клеберга, які пад Коцкам яшчэ 5 кастрычніка 1939 года даў апошні бой у вераснёвай кампаніі.

Нашчасце, мой бацька вярнуўся з гэтай вайны. З яго вайсковай курткі, — памятаю, — пашылі мне прыгожы фрэнч, а ваенны каск доўгія гады служыў курам за дасканалую кармілку.

*Віктар Рудчык*

## § Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: У нас з мужам аддаўна былі непаразуменні і пагэтаму мы фактычна жылі асобна, г. зн. у тым самым памяшканні я займала адзін пакой, а муж другі. Я прабывала некаторы час у бацькоў, а калі вярнулася дамоў, муж не пусціў мяне ў памяшканне, і выступіў у суд аб разводзе. Ці магу я патрабаваць, каб муж не перашкаджаў мне надалей займаць пакой, у якім я жыла дагэтуль. Памяшканне наша кааператыўнае, а членам кааператыва з'яўляецца муж.

АДКАЗ: У асноўным можаце дамагацца, каб муж не перашкаджаў надалей пражываць у пакоі, які вы дагэтуль займалі. Паколькі ў судзе знаходзіцца справа аб разводзе, асобнай справы ўносіць не можна, а трэба выступіць у справе аб разводзе з патрабаваннем часовага ўрэгулявання справы памяшкання. Гэта ўрэгуляванне будзе важна да прыняцця праз суд канчатковага рашэння ў справе разводу. Калі суд разводу не дасць, то муж не будзе мець права перашкаджаць Вам у карыстанні з памяшкання. У выпадку разводу канчатковае ўрэгуляванне справы памяшкання можа быць праведзена праз знясенне супольнай уласнасці, што можа быць дасягнута ўжо ў асобнай судовай справе.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Хацела б я пазнаёміцца з сябрамі з іншага павету. Мне 20 год. Цікаўлюся жыццём моладзі на вёсцы і працай ЗМВ. На гэтыя тэмы хацела б пагаварыць з сябрамі.

**Irena Gryko**
**Kuchmy Stare 5**
**poczta Juszkowy Gród**
**pow. białostocki**




*Дарагое Сэрцайка!*

У нашай вёсцы нядаўна адбываўся фест. Пагода была добрая і моладзі прыехала многа-многа . Ды нават з Беластоку прыехалі некаторыя: адны да бацькоў, другія з сябрамі і сяброўкамі, якія працуюць у гарадах, а родам з нашае вёскі.

Калі людзі пагасцявалі, надвячоркам пачалася забава. Быў добры аркестр, праўда, замнога пхалася моладзі, але затое было з кім патанцаваць, ды каго і выбраць сабе да танцаў. Мой сусед, хлапец, прывёз з сабой калегаў і вось адзін з іх мне прыпаў да густу. Мы з ім танцавалі цэлы вечар, а потым ён правёў мяне дамоў. Гаварыў, што я яму спадабалася і хацеў бы са мной дружыць. Мне таксама вельмі спадабаўся Славак, дык я і згадзілася з ім сустрэцца. Сустрэчу мы назначылі ў горадзе, праз тыдзень ад фесту. Я прыехала, чакала дзве гадзіны ва ўмоўленым месцы, на жаль, Славак не з'явіўся. Было мне прыкра, нават вельмі прыкра. Цяпер мінуў ад гэтага здарэння тыдзень, а я ўсё раздумваю, чаму Славак не прыйшоў на сустрэчу. Ці ён забыў пра мяне, ці знайшоў іншую, а мо і меў нарачоную?

Што мне рабіць, Сэрцайка, ці далей раздумваць, ці мо лепш падысці да гэтага ж суседавага хлопца, калі ён прыедзе, і запытаць яго пра адрас Слаўка. Мо як даведаюся адрас, напішу і запытаю ў пісьме, што сталася. Парай, Сэрцайка. З нецярплівасцю чакаю хуткага адказу. *Галінка з П.*

*Галінка!* Па-мойму, лепш не пытаць пра адрас і не пісаць. Славак жа ж ведае, дзе ты жывеш, і калі ён сапраўды думае аб табе і аб сустрэчы з табою, напэўна можа цябе знайсці. Вядома, тут можна думаць па-рознаму: не прыйшоў на сустрэчу, бо забыў пра цябе. Мо не думаў паважна з табой дружыць, а толькі так гаварыў, бо мае іншую і т.д. Але можа быць і тое, што не з'явіўся на сустрэчу па іншай прычыне; а прычын жа тых, сур'ёзных прычын, можа быць таксама шмат. Адным словам, няма чаго дадумвацца, а лепш пачакаць. Калі забыў пра цябе, значыць, і табе застаецца тое ж самае зрабіць, калі ж не — напэўна прыедзе і ўсё будзе добра. Вось раю табе чакаць.

*Сэрцайка*

## ЖЫЛЛЁВЫ КААПЕРАТЫЎ

Жыллёвы кааператыў ў Васількове Беластоцкага павету заснаваўся ў 1968 годзе. Дагэтуль перадаў ён у карыстанне тры жылыя будынкі на 160 кватэр. Цяпер кааператыў мае больш 300 членаў і больш 100 кандыдатаў. Жыхары новых будынкаў карыстаюцца з новага гандлёвага павільёна. У будучыні будзе тут адкрыты павільён паслуг.

Члены праўлення кааператыва многа ўвагі прысвячаюць грамадска-выхаваўчым справам дзяцей сваіх членаў. Для іх была адкрыта святліца, у якой ёсць тэлевізар і магнетафон. На панадворку абсталяваны гойданкі. Дзеці ахвотна ўдзельнічаюць у розных конкурсах, мастацкіх частках, спартыўных спаборніцтвах і г.д. У ліпені былі арганізаваны для іх адпачынак і харчаванне.

*Тэкст і фота (ЦЯ)*



*Блок пры вул. Э. Плятэр.*

## ПАШЫРАЮЦЬ ДЗЕЙНАСЦЬ

Добра працуе сельскагаспадарчы гурток у Юшкавым Грудзе, Беластоцкага павету. Цяпер ён мае 11 трактараў з камплектамі падвясных сельскагаспадарчых машын, 4 абмалотачныя агрэгаты, камбайн «Вістулю», 5 снапавязалак, 6 бульбакапалак і іншыя машыны. Сельгасгурток гэты ахоплівае сваёй дзейнасцю 4 салэцтвы: Юшкаў Груд, Баршчэва, Кухмы і Ціванюкі. Ёсць прапанова адносна спалучэння яго з сельгасгуртком у Сушчы, які праяўляў дагэтуль слабую дзейнасць. Да найбольш актыўных сельгасгурткоўцаў належаць: Анатоль Ляўшук — старшыня, Янка Качан, Віктар Васько і Уладзімір Матвейчык — трактарысты, Уладзіслаў Саковіч — дыспетчар, Ян Баршчэўскі — каваль і іншыя.

Зараз «кулка» ў Юшкавым Грудзе загаспадароўвае 91 гектараў ПФЗ-этаўскіх зямельных угоддзяў. Восенню дойдзе яшчэ іх 40 гектараў. Сёлета сельгасгурткоўцы сабралі з ПФЗ жыта з 78 га, авёс з 10 га і ячмень з 3 га. Ураджай збожжавых культур склаў у сярэднім 18 цэнтнераў з 1 га. На другі год «кулка» пасее таксама жыта, авёс і ячмень, але і 25 га жоўтага лубіну. Зараз ідуць абмалоты і здача збожжа дзяржаве. Збожжа ў сялян малоцяць камбайнеры: У. Полех, Ч. Ляўшук, А. Каліноўскі і М. Лук'янюк.

Ужо цяпер сельгасгурток задбаў пра поўны асартымент мінеральных угнаенняў на свае зямельныя ўгоддзі. Усе яны знаходзяцца ў сельскагаспадарчых магазінах.

*Я. Цялушэцкі*



Вёска Войнаўка Гайнаўскага павету. Дамы тут драўляныя і мураваныя, але пераважна пакрытыя чарапіцай. *Фота Я. Цялушэцкага*



## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Dzwon admirała" (angl.), 5—6. „Kodyn" (rumuński), 7—8. „Nie można żyć we troje" angl.), 9—10.

**Нарва**

„Lala" (włoski), „Tajemnice Kaliakry" (bułg.), 6—10.

**Чыжы**

„Mój kochany Robinson" (NRD), „Kochana ciocia Sarika" (węgierski), 6—10.

**Арэшкава**

„Pożądanie zwane Anadą" (czeski), „Ambicja" (radz.), 9—10.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Godziny nadziei" (polski), „Spojrzenie na wrzesień" (polski), 6—10.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Sąd" (radz.), 5—6. „Polowanie na muchy" (polski), 7—8. „Umrzeć z miłości" (franc.), 9—10.

**Шудзялава**

„Jestem niewiernym mężem" (franc.), „Prawdzie w oczy" (polski), 6—10.

**Янаў**

„Szerokiej drogi kochanie" (polski), 6—10.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Chudy i inni" (Polski), 5—6. „Nie wspominać o przyczynie śmierci" (jugosł.), 7—8. „Jarzębina czerwona" (polski), 9—10.

**Мельнік**

„Naczelnik Czukotki" (radz.), 5—6. „Tabliczka marzenia" (polski), 7—8. „Podróż za jeden uśmiech" (polski), 9—10.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Nie można żyć we troje" (angl.), „Podróż nie z tej ziemi" (jugosł.), 6—10.

**Новы Двор**

„Cyrk bez granic" (rumuński), „Martwa fala" (polski), 6—10.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.
BZGraf. Nakład 5.231 T-3

П аўгода таму назад я атрымаў новую кватэру. Двухпакаёвую, з усімі выгодамі. Ёсць электрычнае святло, халодная і гарачая вада, газ. А самае галоўнае — ёсць балкон. I выходзіць ён на плошчу.

Балкон — вялікая выгода ў кватэры! Можна пасадзіць там кветкі, і ўсё лета ў тваіх пакоях будзе пахнуць, як у садзе. Можна пасядзець на балконе пасля работы, пачытаць газету або паназіраць за жыццём на вуліцы. А вечарам можна палюбавацца вячэрнімі агнямі горада ці паглядзець, як сустракаюцца закаханыя...

Вялікі балкон у маёй кватэры! Метраў пяць даўжынёй. Радаваўся я такому балкону, але... не доўга.

Заходзяць аднойчы да мяне двое незнаёмых людзей.

— З мастацкага фонду мы, — адрэкамендаваліся яны. — У музеі наладжваецца мастацкая выстаўка, дык добра было б павесіць на вашым балконе транспарт з заклікам, кам наведвалі нашу выстаўку. Ваш дом стаіць якраз на скрыжаванні, яго добра відаць адусюль...

— Калі ласка, — адказваю ім. — Мне балкона нешкада. Няхай паслужыць людзям...

# Балкон на плошчу

Мужчыны тут жа разгарнулі чырвонае палотнішча. «Мастацтва — твой лепшы сябар!» — было напісана там. Потым паведамлялася аб правядзенні выстаўкі, а ў канцы вялікімі літарамі было выведзена: «Усе, як адзін, на выстаўку!»

Выстаўка мела вялікі поспех. У мясцовым друку адзначалася, што поспех гэтых нямала залежаў ад рэкламы. Значыць, і ад майго балкона...

Праз тыдзень да мяне завіталі школьнікі.

— У нас, дзядзя, — пачалі яны нясмела, — хутка пачнецца збор макулатуры. Нас паслалі даведацца, ці дазволіце вы павесіць на вашым балконе заклік да вучняў раёна...

— Дазволю, вядома, дазволю. — Я адчыніў ім дзверы на балкон. — Давайце, вешайце...

Я шчыра радаваўся за дзяцей. Яны выканалі і перавыканалі план збору макулатуры.

Аднойчы на рабоце мяне нечакана выклікаў начальнік аддзела, дзе я працую планавікам. Іду і думаю-гадаю, навошта я яму так тэрмінова спатрэбіўся?

— А-а, Сямёнавіч! — сустрэў мяне на парозе свайго кабінета начальнік. — Ідзі, браце, дамоў, адчыні сваю кватэру. Твой балкон спатрэбіўся аўтаінспекцыі.

— Некалі мне хадзіць. Справаздачу за паўгоддзе раблю.

— Ведаю. Я ім казаў, але яны і слухаць не хочуць. Пагражалі, што калі сарвем іх мерапрыемства... Давай лепш ідзі і адчыні...

Адным словам, маім балконам пачалі карыстацца ўсе ўстановы і арганізацыі нашага раёна. Стваралася нават чарга. Не паспеюць адны зняць сваю аб'яву, а другія падганяюць.

Мне прыслалі графік мерапрыемстваў на бліжэйшы месяц і афіцыйнае пісьмо, у якім указвалася, у які дзень павінен быць устаноўлены на балконе адпаведны плакат. I ўся гэтая работа ўскладвалася на мяне.

Цярпенне маё, нарэшце, лопнула. Я пазрываў і павыкідваў усе транспаранты, усе афішы. Схапіў сякеру і малаток і пачаў разбіваць балкон. Хопіць! Не патрэбен больш ён мне! Не хачу выходзіць на балкон назіраць за жыццём горада, не жадаю больш любавацца яго вячэрнімі агнямі...

Неўзабаве з'явіўся нейкі строгі таварыш і загадаў неадкладна спыніць работу. Гэта быў раённы архітэктар. Ён растлумачыў, што балкон у доме не прадмет раскошы для яго жыхароў, а архітэктурная дэталь збудавання.

Потым ён пацягнуў мяне на вуліцу і пераканаў, што дом наш добра «ўпісваецца» ў ансамбль забудовы плошчы дзякуючы іменна балкону, які належаў мне...

Я даў архітэктару слова, што не падыму больш рукі на балкон. Але як жа мне ад яго пазбавіцца?.. Пачакайце, здаецца, ёсць выхад. Памяняюся кватэрай. Быць не можа, знойдзецца ахвотнік! Мая кватэра добрая. З усімі выгодамі. Нават з балконам на плошчу.

*Рыгор Падневіч*



— *Гэта ж жах, яны без навуковых званняў!*

### «ВАЖНАЯ» ПРАБЛЕМА

Яму заўсёды было цікава,
Што здаравей: ці спірт, ці кава?..

### ДАПІЎСЯ

— Здароў, Савось! Чаму ўчора на працы не быў?

— Жаніўся.

— А каго ж узяў?

— Ганну з Плёсаў.

— Гэта тую старую і кульгавую?

— Ну, але ж.

— Самагоншчыцу і спекулянтку?

— Яе.

— А хто ж сватаў?

— Чорт мяне сватаў: паршак дужа моцны быў, трасца яму ў бок.

*Запісаў А. Перагуд*

*Маладыя: Ах, хутчэй бы і нам пастарэць.*

### ПАКРАЖА

У святара ўкралі ў гасцініцы дзве біблії. Згледзіў ён пакражу і з радасці закрычаў:

— Слава ўсявышняму! Калі яшчэ крадуць біблії, рэлігія не ўпала.

### ЧАМУ СУМНЫ?

— Іване, чаго ты засумаваў?

— Атрымаў прэмію.

— Дык гэта добра!

— Добра, але не зусім.

— А гэта чаму?

— Так мы яе «замачылі», што ўся зарплата ляснула.

### ЯК ПАЗНАЦЬ

Сын пытае бацьку:

— Тату, ці можна паднязь музыку?

— Сын, што ты гаворыш? Музыкі ніхто ж не паднімае?

— А як пазнаць, калі яна лёгкая.

### ДЗЕД І ЎНУК

— Дзядуля, а вы калісьці былі маленькім? — пытае ўнук.

— Быў, унучак, быў.

— Вось вы былі, напэўна, смешнымі са сваёй барадой і лысінай...

### КОЦІК І ЯГО ХВОСЦІК

Дзяўчынкі бавіліся з катом. Ніна пагладзіла яго і пасля запытала сваю сяброўку:

— Галя, ці ты знаеш, чаму коцік угару хвосцік задзірае?

— Не знаю, — паварушыла плячамі Галя.

— А я знаю, — весела сказала Ніна. — Каб хвосцік не пабрудзіўся.

### ДАПАМОГ

Настаўніца звярнулася да Сашкі:

— Ты сёння так прыгожа напісаў дамашняе заданне! Гэта табе напэўна бацька дапамог?

— Не, яго зусім не было, — адказаў хлопчык. — Ён толькі свой раменьчык каля мяне на гваздзіку павесіў.

### ВЫВЯДОЎКА

Жонка папрасіла свайго мужа, каб раз ён пайшоў на вывядоўку сына. Пасля гадзіны часу вярнуўся бацька чырвоны ад злосці.

— Пасылаеш мяне на вывядоўку, — закрычаў, — і не скажаш у якой школе Пеця вучыцца і ў якім цяпер класе!.. (гог.)

### У СУДЗЕ

Суддзя: Вы абвінавачаны ў тым, што ўкралі свіню і васьмёра парасят.

Падсудзімы: Свіню краў, пане суддзя, вінаваты ў гэтым. А калі ўжо разыходзіцца аб парасяты, дык гэта брахня, я іх не краў, яны самі за свіннёй пабеглі.

*Галоўнае ў творчасці — шчырасць.*

# НЕ ЗАХОДЗЬ ТЫ, СОНЕЙКА

*Словы Адама Русака*
*Музыка Ісака Любана*

ДЛЯ ЖАНОЧАГА ХОРУ A CAPELLA

Не заходзь ты, сонейка,
За лясы далёкія,
За лясы далёкія,
За горы высокія.

Будзе ночка цёмная, —
Не відно дарожанькі,
Стомяцца, блукаючы,
Мае босы ножанькі.

Не кідай ты, любы мой,
Мяне сінявокую,
Мяне сінявокую,
Адну адзінокую.

Заслоняцца хмараю
Мае вочы ясныя,
Без цябе, каханы мой,
Буду век няшчасна я.

Не заходзь ты, сонейка,
За лясы далёкія,
За лясы далёкія,
За горы высокія.

### СУЦЕШЫЎ

— Ну і жыццё пайшло, — скардзіўся падвыпіўшы Пятрок свайму сябру. — Жонка як завялася, дык цэлы тыдзень не супыняецца, лаецца.

— Не сумуй, калі гэтак сур'ёзна завялася, дык хутка так, як і мая, кіне цябе.

### УПЕРШЫНЮ

— Сёння я ўпершыню прачнуўся ад будзільніка.

— А што, да гэтага часу быў ён сапсаваны?

— Не, сёння жонка гадзіннікам ляснула мне па галаве.

### ЗНОЎ ДВОЙКА

Маці звярнулася да сына: — Што з Табою? У цябе зноў двойка. Можа ты не разумееш пытанняў настаўніка?

— Не, мама, наадварот, пытанні я разумею. Справа ў тым, што настаўнік маіх адказаў не разумее.

# Курёзы

### КОШТ ФАНАТЫЗМУ

Маленькая 13-гадовая Кадзуйо разгневала сваіх аднакласніц тым, што на працягу трох дзён не наведвала трэніровак сваёй баскетбольнай каманды. Яе жорстка збілі. Кадзуйо — не адзіная ахвяра спартыўнага фанатызму, які ў Японіі з году ў год шырыцца. Так, ад пабояў памёр 15-гадовы Іціро Сімануні, пакараны таварышамі за «сімуляцыю», — у яго не хапіла сілы, каб працягваць трэніроўку па рэгбі. Жорсткі садызм пануе ў маладзёжных спартыўных таварыствах Японіі.

### НЕ ТОЙ КОЛЕР

Нядаўна французскі мастак-карыкатурыст Трэз паслаў аднаму нью-йоркскаму выдаўцу сваю апошнюю кнігу для дзяцей. У ёй, у прыватнасці, ёсць сюжэт пра тое, як пасябравалі белы і чорны каты. У адказ выдавец прыслаў тэлеграму наступнага зместу: «Прадаць кніжку на поўдні немагчыма. Тэрмінова памяняйце колер ката».

### ЗАКЛІК

Вось з якім заклікам звярнулася французскае Таварыства сяброў асла да грамадскасці: «Многія старажытныя цывілізацыі не ведалі коней, аднак аслы заўсёды жылі сярод людзей. Егіпецкія фараоны давалі за кожнага асла пяць рабоў... Стала распаўсюджаным меркаванне, што асёл двуногая і злосная жывёліна. Няма нічога больш памылковага за гэту думку! Асёл — істота жыццярадасная, якая хутка арыентуецца ў сітуацыі, адважная, ласкавая спрытная і поўная фантазіі. Пара скончыць з неабгрунтаванай пагардай да асла...»

*З думкаю, што крытыкаваць лягчэй за ўсё, менш за ўсё згодны самі крытыкі.*